Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. | Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 15. | Вільня, 18 чэрвеня 1927 году. | Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ





| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |



## Першы крок.

У далёкім ад віленскага шуму і віленскае грызьні Наваградку, ў тым самым Наваградку, дзе яшчэ нядаўна рабіў сваю „палітыку“ ваявода Янушайціс, дзе нацыянальная варожасьць і „грамадаўшчына“ адчувалася на кожным кроку, другога чэрвеня здарыўся невялічкі факт, урачыста былі адчынены дзьве бурсы для бедных вучняў і вучаніц Наваградзкае Беларускае Гімназіі.

Сам па сабе ўзяты гэты факт ня б'е́ць у вочы, не прэтэндуець на сэнсацыю і ня дзіва, што віленская беларуская прэса, занятая сваімі „асабістымі“ справамі і высокаю „палітыкаю“, нават не зьвярнула ўвагі на гэты факт. Бяром, аднак, на сябе сьмеласьць падкрэсьліць, што гэты дробны, няпрыкметны для вока „высокіх“ палітыкаў, факт маець пэўнае значэньне і значэньне большае, ніж напрыклад, заснаваньне нейкіх новых партыяў, якія апошнімі часамі растуць у нас, як грыбы пасьля дажджу.

Маець большае значэньне ўжо па аднаму таму, што гэта факт позытыўны, першы крок да замацаваньня беларускае сярэдняе асьветы ў Наваградчыне і крок, маем падзею, цьвёрды. Але Наваградзкая ўрачыстасьць 2-га чэрвеня маець і іншае значэньне.

Першы раз там зышліся на гэтую ўрачыстасьць прадстаўнікі польскага і беларускага грамадзянства і прывіталі адны адных.

Першы раз прадстаўнік польскага ўраду, ў асобе ваяводы Бэчковіча, прывітаў у Наваградчыне беларусаў і іх культуру, першы раз беларускі хор сьпяваў разам адзін за другім польскі і беларускі народныя гімны, а з вуснаў прамоўцаў - беларусаў і палякоў выляцелі словы аб братэрстве і збліжэньні дзьвёх родных сёстраў, дзьвёх культураў— польскае і беларускае.

Народная прыказка кажа: «Першая ластаўка ня робіць яшчэ вясны». Так вясны і братэрства народаў нашага краю мы яшчэ ня маем. Паветра яшчэ атручана ядам ненавісьці і недавер'я. Яшчэ шмат працы трэба палажыць, каб зламаць лёд у нацыянальных адносінах і мала хто яшчэ верыць, што гэты лёд зламаць можна. Наваградзкі факт тым і цікавы, у тым яго вялікае грамадзкае значэньне, што ён сьведчыць аб магчымасьці перамогі ідэі братэрства, аб магчымасьці польска-беларускае дружбы. Вельмі сымболічна, што першы крок да гэтае дружбы быў зроблены ў Наваградку, ў якім абуджаная беларуская народная стыхія адчуваецца на кожным кроку жыцьця, дзе найбольш было непаразуменьняў у нацыянальных адносінах беларусаў і палякоў, дзе было зроблена найбольш памылак, як з аднаго, так і з другога боку.

І ўсё-ж такі аказалася, што грунт для пара-

зуменьня знайсьці можна і ня так ўжо трудна яго знайсьці, як гэта здаецца на першы пагляд некаторым напуджаным палітыкам.

Патрэбна толькі добрая воля, шчырасьць і трохі здаровага розуму. Перакананы ў тым, што Наваградзкі факт не застанецца „першаю ластаўкаю“, а што сьледам за ім будуць зроблены і больш сьмелыя пачынаньні ў гэтым кірунку.

---

# Вясновай раніцай.

Залацее небасхіл
І начны зьнікае цень;
Поўны нейкіх цуда-сіл,
Першы вырваўся прамень.
Вольна стрэліў да гары,
Разьляцеўся па палёх;
Засьвяціўся лес стары,
Рыцар сьвету, цемру змог.
І раса ужо блішчыць
Пералівамі - агнём,
Дыямэнтамі гарыць,
Яна згіне прад паўднём.
Ужо падае туман,
Тае борзда над ракой;
Ляціць спозьнены кажан,
Гіне недзе за гарой.
Там зязюлька між бяроз
Пачынае кукаваць;
Вецер пах садоў прынёс,
Стаў ў паветры разьліваць;
Гоман льецца ад ракі,
Прабудзілася усё,
Зазьвінелі жаўрукі
І кіпіць ужо жыцьцё.
Там ў імгле сінее дзень,
А няясны воблік гор,
Як шліфованая сталь,
Адбівае блеск ў простор.
Золата гарыць наўкол,
Льецца ўсюды, зігаціць;
Сьвецяць горы, сьвеціць дол,
Усё сьмяецца й хоча жыць.
Моладасьць крыніцай б‘е, —
Гэта раніца вясны,
Тут ня месца ужо цьме —
Адляцелі недзе сны.
Ў прост імкнець цябе чуцьцё
Там, дзе харства аўтар,
Каб захопленьне сваё
Палажыць вясне у дар.
І ідзеш, ня чуеш ног,
Ветрык сам цябе нясе,
Недзе па палёх, лясох,
Гымны звонячы красе.
Што за цудная пара,
Дзівы сее па зямлі,
Золатам зігціць гара,
А брыльлянты на зяльлі.
Гэта раніца вясны
І начны зьнікае цень;
Разганяючы ўкруг сны,
Першы вырваўся прамень.

*Вітэблянін.*

# КАМПАНУ.

Брат, кампан жыцьця благога,
Верны сябар добры мой,
Па сваёй, ці волі Бога
Мы спаткаліся з табой.
Тут між роднага прастору,
Сьвет староначкі мае,
Тут, дзе ціхі гоман бору,
Песьню скаргі нам пяе.
Дзе гуляюць шалаўліва
З лістам хвалі вецярка,
Дзе сьлязой паліта ніва
Беларуса - мужыка.
З кім у полі за сахою
Ці за працай на лугу,
Мілай гутаркай сваёю
Разганялі мы тугу?
Хто над Котрай, смут забыўшы,
Пад таёмны ўсплёск вады,
Успамінаў пра час уплыўшы,
Пра мінулыя гады.
Дзень быў ціхі, расьцьвітала
Доўгажданая вясна.
Душу шчасьцем напаўняла,
Чаравала нас яна.
Сонца ясна зіхацела,
Дзіўна - весела было,
Усё сьмяялася й радзела —
Пышнай гожасьцю цьвіло.
І цякла, цякла вадзіца
Вузкай стужачкай у даль,
Як тых думак навальніца,
Што радзіў былога жаль.

*Міхась Васілёк.*

---

# З жыцьця беларусаў у Чэхаславаччыне.

У Празе 3 чэрвеня г. г. адбыўся вечар „Беларускай Песьні“. Мушу зацяміць, што Бакулаў хор, арганізованы выключна з чэскіх дзяцей, ужо други раз робіць выступленьне на сцэне з беларускаю песьняю.

Першы раз на славянскам вечары, які ўлаштоўвалі ўсе студэнты-славістыя чэскага унівэрсытэту ў Празе 21.III—27, было запраўдные імпанаваньне беларускай песьні ў перапоўненай салі „Мяшчанскай Беседы“. Гэты-ж раз сьпяваў той-жа хор у салі „Мастацкае Беседы“, праграма складалася з беларускіх песьняў, разьбітых на аддзелы, як: **песьні каханьня, сямейнага жыцьця, гумару, паходныя** і др. Аднак, саля была пустая. Што за прычына? Дужа проста, калі першы раз улаштоўваўся вечар усімі студэнтамі і вядомымі арганізацыямі, то гэты раз задумала выкарыстаць настрой першага вечара, сьпяваныя беларускія песьні, савецкае полпрэдства ў Празе, загадаўшы зьменавехаўцам-паступовцам весьці ўсю працу і прадаваць білеты, а на афішах напісала: „Саюз усебеларускіх поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“. Гэтага было досіць, каб уцяміць кож-

наму, нават жадаючаму быць на вечары, як Украінцу, Грузіну, Чэху і г. д., што беларускую песьню ўжо ўжылі на палітычную прапаганду і рэклямаваньне прахадзімцаў.

Уявеце сабе, якія былі людзі ініцыятарамі і кіраўнікамі вечара: адзін з іх у 1919 г. ў Наваградку, служыў у бальшавікоў, карыстаўся мамэнтам, браў каморніцкія прылады, якія заганяў, наогул паказваў „ловкость рук“ сьляпым, ён-жа ў 1921 г. ў Горадне на польскіх каморніцкіх курсах, а цяпер у Празе пакорны лёкай полпрэдства С. С. С. Р., і як старшыня беларускіх зьменавехаўцаў-паступоўцаў — М. К—іч. Гэтага можна было і ня пісаць, але самы факт, калі чытаеш «Беларускую Крыніцу» г. г. (ад 20 траўня № 21) і прысутнасьць на вечары, пад такім кіраўніцтвам, віцэ-старшыні Кірыла-Мяфодзіеўскай лігі С. Клімовіча, то проста думаеш, ці гэта людзі займаюцца толькі самарэклямаю, ці бестактоўнасьць і поўнае палітычнае неразуменьне справы, што патрэбна маладнякоўцам. Значыць, пад кіраўніцтвам Клімовіча, Каўцэвіч не пайшоў, але пад кіраўніцтвам Каўцэвіча, Клімовіч быў. Цікава, ці гэта канкурэнцыя між імі, ці яны жывуць... у сымбіозе? Ня буду пералічаць усіх прысутных, а скажу каротка, каб чытач ня думаў, што ўсе праскія беларусы зьменавехаўцы, ці маладнякоўцы, як гэта піша „Замежная Беларусь“ (выд. Прага 1926 г. бал. 146). Вось-жа зьменавехаўцаў-маладнякоўцаў ёсьць усяго каля 13 чалавек.

Але яшчэ пару слоў аб вечары.

Мушу сказаць, што на ім пад такім кіраўніцтвам, былі ня ўсе беларусы. Беларускае нацыянальна сьвядомае студэнства за граніцай добра ведае і орыентуецца, што ўсе, хто даказвае аб якой-бы то нібыло д ы ф э р э н ц ы я ц ы і беларускага палітычнага жыцьця, ёсьць ворагі беларускай дзяржаўнасьці. Гэтыя цёмныя сілы даказваюць і будуць даказваць, іграючы на псыхолёгіі мас, аб розных дыфэрэнцыяцыях і патрэбнасьці іх, заадно старающыся як мага цкаваць адных на другіх. Гэтак робяць праскія маладнякоўцы і гэтак-жа піша штодзяя „Наша Праўда“.

На гэты раз закончу і аб усім вышэйпамянёным напішу ў другі раз больш падробна. Скажу адно, каб чытачы „Беларускага Дня“ ня думалі, што ўсе беларускія студэнты ці беларуская эміграцыя — маладнякоўцы і грамадаўцы, а што ўсе, за выняткам пералічаных, беларусы па-за межамі бацькаўшчыны, вераць у хуткі зварот на пляновую і бязупынную працу на карысьць свайго народу і адбудаванасьці свае дзяржаўнасьці.

*Прысутны.*

5 чэрвеня 1926 г. Ч.-С. Р.

---

## СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

Спыталіся ў алькоголіка:

— Чаму гэта ў цябе чырвоны нос?

— Бо яму сорамна за мяне, — адказаў алькоголік.

——

— Янка, ты-ж казаў, што вып'еш адну чарку, а п'еш ужо другую.

Янка. Выпіўшы чарку, робішся другім чалавекам, а ці-ж другому чалавеку ня трэба выпіць?..

---

# Успаміны з Пэрсіі.

(*Гл. № 14 „Б.Д.“*).

У хату Пэрса таксама заглянуць немагчыма без дазволу гаспадара, асабліва ў гарадох.

Дамы свае яны будуюць гэткім чынам, што вокны выхаду на вуліцу ня маюць і ўсе выходзяць толькі ў двор, які адгароджаны ад рэшты сьвету высокай глінянай сьцяною.

У сьцяне гэтай зроблены моцныя, акутыя жалезам, вароты, зачыненыя засоўкамі і замкамі з боку панадворку.

Кожныя вароты маюць ад вуліцы, прымацованы да іх на шалнеры, медны зазвычай малаточак, проці галоўкі каторага прыбіта да варот медная дошчачка. Малаток гэны служыць заместа званка ў нашых гарадзкіх дамох. Госьць, які хоча ўвайсьці, пачынае стукаць малаточкам аб медную дошчачку, ажно гаспадар, альбо слуга начуе і тады пры варотах пачынаецца гутарка, хто, ды што, ды за чым прыйшоў? Пасьля гэткай гутаркі, чуеш, як твой размоўца, ідзе ўглыб двара, ня даўшы ніякага адказу. Мяне спачатку вельмі злавала гэткае маўчаньне. Стукаў, стукаў чалавек, ледзь дабіўся таго, што гаспадары ўрэшце звярнулі ўвагу на тваё стуканьне, а цяпер, калі дазналіся хто, што і як, няма ведама, пусьцяць цябе ў двор, ці пад якім-небудзь сосам скажуць табе „ідзі вон!“ Але нічога ня зробіш. Трэба цярпліва чакаць, чакаць іншы раз даволі доўга. Справа ў тым, што пакуль гаспадар ня прыбярэ са двара сваіх кабет, і не пахавае іх так, каб вока чужынца не магло іх даглядзець, варотаў не адчыняць. Адзін раз толькі, ў Хамадане, калі я жыў у доме, які меў некалькі паверхаў і быў шмат вышэйшым за акружаючыя яго суседнія дамы, узьлезшы на плоскую страху свае хаты, я меў магчымасьць заглянуць у тайну іх хатняга жыцьця. У панадворку круцілася некалькі кабет і каля іх дзеці. Кабеты прыбраны былі ў кароценькія спаднічкі, дасягаючыя толькі да каленаў і ў вузенькія доўгія портачкі, якія беспарамонна выглядалі з-пад спадніцы і ўнізе хаваліся ў кароткія нагавіцы, на каторыя былі апрануты *гэвэ*. Спадніцы і портачкі былі пашыты з таго самага пэркалю, шэрага колеру з нейкім хітрым рабым узорам.

## Каранацыя Чудатворнага Вобразу Вострабрамскае Божае Маці.

2-га ліпня сёлетняга году з багаслаўленьня Сьвятога Айца адбудзецца ў Вільні каранацыя Чудатворнага Вобразу Вострабрамскае Божае Маці.

Аднача́сна з тым, з ініцыятывы вышэйшае мясцовае каталіцкае духоўнае ўлады была створана спэцыяльная камісія, мэтай якой было пару́піцца аб тым, каб Чудатворны Вобраз, гэную сьвятыню нашага краю, зрабіць больш трывалым і больш адпорным на зьмену пагоды і тэмпэратуры, пад уплывам каторых з часам паволі кожны малюнак псуецца. Апроч консэрвацыі, камісія гэная мела на мэце ачысьціць Чудатворны Вобраз ад пылу вякоў і ўявіць сьвету малюнак Божае Маці ў даўнейшай яго прыгожасьці і сьвежасьці.

Трудная і адказная праца консэрвацыі Вобразу была даручана прафэсару Рэмэру і Яну Руткоўскаму, які нядаўна даканаў консэрвацыі Чудатворнага Вобразу Маці Божае ў Чэнстахове.

Для выпаўненьня гэнае працы Чудатворны Вобраз 13 красавіка быў зьняты з свайго месца ў Вострабрамскай капліцы ў прысутнасьці Яго Эксцэленцыі Віленскага Біскупа Міхалькевіча.

Праца консэрвацыі цяперака падыходзіць да канца. Для каранацыі Вобразу робяцца кароны з чыстага золата, якія пасьля пасьвячэньня іх 2 ліпня будуць пастаўлены на сваё месца, заместа даўнейшых карон, якія былі зроблены з медзі, толькі пазалочаны.

На ўрачыстасьць каранацыі, зьвязаную з вялікім фэстам, чакаюць у Вільні прыбыцьця пілігрымаў з усіх канцоў Польшчы і з па-за межаў яе; ўсяго спадзяваюцца прыбыцьця ў гэны дзень ня менш як 100 тысячаў людзей.

Спадзяюцца ў Вільні таксама прыезду пілігрымаў з заграніцы, паміж іншым з Літвы.

Ня глядзячы на тое, што дыплёматычныя зносіны паміж Літвою і Польшчаю дагэтуль не наладжаны, польскі ўрад загадаў спыніць усялякія перашкоды і даць вольны праезд праз граніцу літоўскім працэсіям. Кажуць, што маніцца прыехаць працэсія і з савецкай Расеі. Ведама, на гэную ўрачыстасьць прыедуць у Вільню прадстаўнікі вышэйшае дзяржаўнае ўлады і каталіцкага духавенства.

Вільня цяперака пасьпяшаючы рыхтуецца да прыняцьця гасьцей, каб спаткаць іх, як прыстала сталіцы краю.



Грудзі і стан іх абхапляў каптачік з таго самага пэркалю. Наагул вопратка здалася мне ня вельмі прыгожай, а кабеты былі старыя і нехарошыя. Дзеткі былі напалову голыя. Жанчыны краталіся каля ачысткі нейкага збожжа, якое ў кучках было ссыпана пасярэдзіне двара. Яны заграбалі збожжа ў сіты і пасьля, патрасаючы імі, прасейвалі яго, аддзяляючы гэткім чынам сьмяцё. Доўгі час яны гэтак працавалі, ня ведаючы аб тым, што іх пільна наглядае вока чужынца, ажно адна з кабет убачыла мяне. Яна не нарабіла крыку, як-бы гэта напэўна зрабілі-б нашы кабеты, каб задэманстраваць сваю саромлівасьць, але нешта толькі шапнула іншым і яны разам усе кінулі работу і, забраўшы дзетак, пабеглі да хаты. Я бачыў, як адтуль праз вокны яны пригляда́ліся да мяне. Не хацелася мне перашкаджаць ім у працы і я зышоў са страхі.

З таго часу я ўжо ня так цікавіўся, спатыкаючы на вуліцы закутаныя ў хусткі муміі, пад якімі, думалася мне, хаваюцца чароўныя істоты таёмнага Ірану. Я цяпер ведаў, што, скінуўшы заслону, я хутчэй мог убачыць зморшчаны твар старой ведзьмы, чым чароўны воблік і агнявыя вочы маладой Іранкі, тым болей, што ў Тэгэране на пляцы „Туб хане“ я пракана́ўся, што прыгожыя кабеты, нават у Пэрсіі, патрапяць пахваліцца сваёй прыгожасьцю і падняць у адпаведны момант заслону. Наагул няцікаўнае, відаць, у Пэрсіі жыцьцё кабеты. Правоў яна ніякіх ня мае, у грамадзкім жыцьці удзелу ня прымае, ў мужыка свайго яна хутчэй зьяўляецца работніцай, чым гаспадыняй; мужык — гэта пан яе, на якога жаліцца няма дзе. Кажучы аб кабетах, прыпамінаю яшчэ адно спатканьне з імі, калі я бачыў іх твар. Гэта было ў часе, калі расейскае войска, пад націскам туркаў, мусіла адступаць. Вось тады ханы (пэрсідзкія абшарнікі), якія трымалі за Расеяй, мусілі пакідаць свае палацы і перабірацца ў іншае месца, бо туркі іх не шкадавалі і забіралі ў палон, а то і проста расстрэльвалі. Вось, едучы з аддзелам самаходаў, я спаткаў аднаго з такіх ханаў, як з дваром сваім і ўсёй маемасьцю сваею, не забыўшыся забраць з сабою сваіх жонак, перабіраўся ў іншае месца. Сам ён, багата апранены, ехаў на пышным арабскім жарабцы; слугі яго, ў ліку 30—40, апранены ў сурдуты, якія

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Закладайце малачарні.

Дамовая прадажа малака на масла і сыры і прадажа гэтых прадуктаў на таргох у суседніх мястэчках ня прыносіць селяніну тых карысьцяў, якія павінна прыносіць.

Дамовы спосаб вырабу масла лічаць ня толькі заграніцай, але, дзякуй Богу, ўжо і ў нас часта за прастарэлы.

Пераканаліся людзі, што астаўляньне малака на кіслае, каб пасьля можна было сабраць сьмятану і біць масла, цягне за сабой страту найдаражэйшага складніка, які зьяўляецца клустасьць у малаку. Масла дамовага вырабу наагул ліхое, нятрывалае, скора псуецца, за такое масла адтрымліваецца пры прадажы палова вартасьці, якую мае масла. Ад гэтых стратаў не абясьпечыць земляроба нават малая „віроўка" (машына каторая аддзяляе сьмятану), переважна благая і дарагая, каб вырабіць добра масла трэба да гэтага адпаведнай умеласьці. Урэшце, каб дастаць добрую цану за малако, трэба яго даставіць на вялікія рынкі збыту, а гэтага дробная гаспадарка зрабіць ня можа. На цяперашнім вырабе масла зарабляюць толькі пасярэднікі, найчасьцей жыды і іх поўна ў кожным месьце і мястэчку.

У Даніі, Галяндыі і Швайцарыі, а нават у халоднай і далёкай Сібіры, земляробы ўжо даўно зьвярнулі ўвагу на спосаб дагляду над малочнымі прадуктамі на выраб і прадажу масла. Там зразумелі, што трэба пакінуць дамовы выраб масла і згодна з заклікам „у грамадзе сіла", пачалі там лучыцца ў малачарскія хаўрусы.

У нашым краі праца над закладаньнем малачарскіх хаўрусаў вялася ўжо перад вайной праз грамадзка-земляробскія арганізацыі. Вайна, аднак, рэзультаты гэтае працы зьнішчыла. У незалежнай Польшчы Цэнтральны Саюз Земляробскіх Гурткоў і Рэвізыйны Саюз пачалі нанова заахвочваць дробных земляробаў да арганізацыі малачарскіх хаўрусаў. Заклікі гэтыя не пашлі на дарма. Цяпер толькі невялікая колькасьць паветаў у Польшчы ня мае малачарскіх хаўрусаў. У некаторых паветах малачарскія хаўрусы паўставалі так шыбка, як грыбы па дажджы. Наагул, аднак, многа яшчэ працы трэба палажыць у гэтай галіне. Бо калі ў Даніі малачарскія хаўрусы перарабляюць малако ад 85% усіх кароў, а з 206 тысячаў зямельных гаспадарак сябрамі малачарскіх хаўрусаў зьяўляецца 184 тысячы гаспадароў, то ў нас да такіх цыфраў яшчэ вельмі далёка. У Польшчы ў апошнія часы коопэрацыйны рух вельмі пашыраецца. Да 1925 году Польшча прывозіла масла з-за граніцы болей, чымся вывозіла. У 1926 годзе наступіў паварот на карысьць нашага краю. Вываз масла ў гэтым годзе вынес паважную колькасьць 5,548,000 кг. масла, вартасьці 13,502,000 зл. у золаце (з гарой 28,000,000 зл. абяговых). У наступных гадох спадзяюцца вялікшага ўзросту вывазу, бо прадукцыя масла ў малачарскіх хаўрусах узрастае. Што-ж заахвочвае земляробаў да закладаньня малачарскіх хаўрусаў?

Заахвочваюць вялікія карысьці, якія дзякуючы малачарням удаецца асягнуць у земляробскай гаспадарцы. Паўстала думка, што малачарскія хаўрусы зьяўляюцца „штурхачом земляробства". Думка гэтая зусім праўдзівая, бо калі паўстане на вёсцы малачарня, дык адна галіна зямельнае гаспадаркі паўстане з упадку і разьвінецца. Карысьці з малачарскіх хаўрусаў ёсьць рознародныя:

1) земляроб, дастаўляючы малако ў малачарню ад усіх кароў, адтрымлівае штомесяц выплаты,

---

я апісаў вышэй, таксама на прыгожых стройных конях, у якіх відаць гуляла арабская кроў, з маўзэраўскімі карабінамі ў правай руцэ, абапёртымі на калена, акружалі ханскі абоз. Некалькі дзесяткоў вярблюдаў пераносіла дабро хана ў скрынках і клумках, зьвязаных моцна вяроўкамі, якія былі перакінуты праз гарбы і раўнамерна зьвісалі з абодвых бакоў вярблюда. І вось у гэнай грамадзе здалёка ўжо я зьвярнуў увагу на шэсьць клетак, умацованых па дзьве да пары шастоў, перакінутых праз гарбы трох вярблюдоў, якія з вялікай павагай, выкідаючы ногі і ўзіраючыся ўва ўсе бакі, нясьлі на сабе гэны скарб. Клеткі знутры былі завешаны заслонамі з нейкай лёгкай матэрыі рожавага колеру. Я адразу ня мог сьцяміць, што гэта за скарб хаваецца ў гэных клетках, тым болей, што гэны скарб мусіў быць вельмі цэнным, бо вярблюды з клеткамі былі абкружаны асобнай лініяй ханскай варты. І, толькі зраўняўшыся з абозам, я ўбачыў, што з клетак гэных выглядаюць праз шчыліны заслонаў цікаўныя вочы. Наляцеўшы вецер рвануў лёгкую тканіну заслонак, яны расхіліліся і я ўбачыў прыгожыя твары зусім маладых кабет-дзетак. Гэта былі жонкі хана. Цэлых шэсьць жонак!

— Ці не зашмат гэта? — запытае не адзін з маіх чытачоў, які і з аднэй жонкай часам рады даць ня можа, а маючы шэсьць, быў-бы зусім нешчасьлівым чалавекам. Але трэба ведаць, што нашыя жонкі—не пэрсіянкі. Тыя прывыклі слухаць свайго мужыка, воля яго—закон дла пэрсідзкай кабеты. А ў нас? які там послух, калі іншая кабета качалкай частуе свайго мужыка і ўмее так яго прыбраць у рукі, што камандуе ім, як толькі хоча! Але, казалі мне людзі, што і пэрсу цяжка ладзіць са сваімі жонкамі; яны ўсьцяж сварацца паміж сабою, абгаворваюць адна адну перад сваім мужыком і ўсякімі спосабамі стараюцца адна адну пазбавіць яго ласкі. Вось мусіць дзеля гэтага, ня глядзячы на тое, што магамэтанская рэлігія пэрсаў дазваляе ім многажэнства, больш чым адну жонку маюць толькі багатыя пэрсы, ў якіх хапае даволі грошай на гэную роскаш.

Ну, а як-жа-ж Пэрсы, ці шануюць яны сваіх жонак? Ой — мусіць не залішне! Любяць, шэльмы, паглядзець на нашых эўропэйскіх кабет, а асабліва падабаюцца ім блёндынкі. Спэцыяльнае ўражаньне на

якія ў значнай меры заспакойваюць брак грошай, які селянін адчувае і на які наракае.

2) малачарскі хаўрус ухіляе клопаты, зьвязаныя з дамовым выбарам масла.

3) малачарскі хаўрус, дзякуючы добрым выплатам, паводле клустасьці малака, заахвочвае гаспадара да рацыянальнае гадоўлі быдла.

4) малако худое, салодкае і чыстае адтрымліванае з малачарні, зьяўляецца цэнным кормам для стада, на чым гаспадарка мае вялікія карысьці.

5) арганізованная праца ў малачарскіх хаўрусах ёсьць над'звычайна вымоўным прыкладам практычнага застасаваньня заклiку „у грамадзе сіла“, а дзеля гэтага і школай грамадзкага жыцьця.

Сябры малачарскага хаўрусу перакананы карысьцямі, якія ім даець малачарня, ахвотна ўступаюць у земляробскія гурткі і прыступаюць да арганізацыі іншых хаўрусаў.

У разумнай і супольнай працы і веры ўва ўласныя сілы ёсьць наша будучыня ў кожнай галіне нашае працы; сьведчыць аб гэтым ня толькі разьвіцьцё малачарства загранiцай, але яго пачатак у нашым краі.

Дык ідзем пэўнаю дарогаю!

## Як сеяць лубін?

Лубін сеецца звычайна вясною па азімым жыце, перад тым, як жыта пачне выплываць і цьвісьці, а якраз весь тады, калі жыта дасягяе ½ мэтра. Пры засеве ня трэба зьвяртаць увагі на тое, што пры сяўбе прыдзецца крыху стаптаць жыта, таму што ад першае расы або дажджу памятая, зялёная, маладая саломка жыта, дзякуючы вільгаці, паднімаецца ізноў бяз ніякае шкоды для сябе.

Калі, па якіх-колечы прычынах, нельга пасеяць лубіну вясною па зялёным жыце, дык ён сеецца зараз-жа па зжаньні жыта, пры чым поле трэба заараць мелка зараз па зжаньні жыта, каб ня даць грунту высахнуць, бо йначай, дзякуючы адсутнасьці вільгаці, будзе позны абыход зярнят, што адаб'ецца на ўраджаі; калі лубін будзе пасеяны па згараным полі, дык яго трэба забаранаваць і гэтак пакінуць. Лубін патрабуе шмат вільгаці, а дзеля гэтага, пасеяны вясною па зялёным жыце, ў выпадку дажджлівага лета, вырастае вельмі хутка і, гэтым самым, заглушаючы жыта, не дае правільна разьвівацца саломе, а дзеля гэтага і трэба старацца сеяць лубін па зялёным жыце не раней, як перад тым, калі жыта пачынае выплываць (каласіцца), каб лубін ня мог узяць сілы і гэтым перашкаджаць росту жыта, таму што пасьля ўборкі жыта даволі будзе мець часу для свайго росту, а пасеяны вясною лубін, да таго часу, пакуль прыдзецца жаць жыта, пасьпее толькі пакрыць зямлю, дзякуючы таму, што жыта будзе перашкаджаць доступу сьвятла, а гэтым замінаць шыбкаму росту. Затое пасьля ўборкі жыта лубін набіраецца сілы і на восень пакрые поле густым зяленівам. Заговваць лубін трэба пры першых маленькіх маразох; дзякуючы тоўстаму заворанаму слою лубіну, грунт так хутка не замярзае, а гэта мае добры ўплыў на ўраджай. У выпадку, калі, па якіх-нібудзь прычынах, нельга заараць лубіну ўвосень, дык яго можна пакінуць на зіму і заараць вясною. Аднак-жа, раіцца пастарацца заараць лубін увосень, таму што часткаю ўвосень і раньняю вясною заараная ўдабрэньне ўжо да некаторае меры зможа разлажыцца (падгнісьці) і гэтым дасьць болей кармільных сокаў для пасеянае вясною расьліны. Па заараным увосень лубіне можна сеяць бяз гною, што сабе хочацца, нават і садзіць бульбу, хаця бульба будзе мець гаркаваты смак, аднак дасьць добры ўраджай і можа пайсьці на корм для жывёлы. Найлепш ужываць насеньне таго лубіну, які цьвіце жоўтым цьветам; гэты гатунак лубіну лепшы за той, што цьвіце сінім цьветам, тым, што ён мае ня так горкую салому і больш сьцелецца па зям-

---

іх робіць тое, што твары нашых кабет не атулены заслонай. Яны, відаць, дзівуюцца гэнаму звычаю і ніяк ня могуць зразумець, што мужыкі і браты эўропэйскіх кабет дазваляюць ім паказваць свой твар чужынцам.

Шмат, шмат ёсьць у жыцьці эўропэйскіх народаў таго, чаго ня могуць зразумець Пэрсы. Але таксама і ў жыцьці і звычаях Пэрсаў ёсьць шмат такіх рэчаў, якія зусім незразумелы эўропэйцу. Розьніца паміж гэнымі дзьвюма культурамі выступае на кожным кроку. Розьніца гэная датычыць ня толькі мовы, звычаяў і рэлігіі, але сягае ў галіну мімікі і жэстаў. Неаднальковасьць мімікі і жэстаў, як я праканаўся, найбольш розьніць людзей і робіць іх чужымі. Ня ведаючы мовы, двое эўропэйцаў аднак патрапяць якнебудзь паразумецца з сабою толькі пры помачы мімікі і жэстаў. А з Пэрсамі гэным спосабам паразумецца нашаму чалавеку ня можна. І колькі гора з гэнае прычыны нацярпеўся я ў першыя месяцы свайго быцьця ў Пэрсіі. Прыходжу, бывала, да крамкі, выбіраю тавар. — Колькі каштуе ён? — пытаю жэстамі купца. Той не разумее мяне, толькі нешта лапоча языком. Я кручу галавою, кажучы што гутаркі яго ня ведаю. Паўтараю сваё пытаньне, паказваючы на пальцах 1, 2. Купец у адказ мне толькі заплюшчвае вочы і, апусьціўшы галаву ўніз, разам закідае яе ўгару, цмокнуўшы адначасна языком. Ага, думаю, такі дагаварыўся! Вымаю грошы, плачу. Купец моўчкі прыняў грошы і зноў той самы рух галавою, зноў цмоканьне языком. Цяпер, думаю, ён дзякуе мне — вось які ветлівы народ! Забіраю тавар, іду... калі чую за сабою: — Го-го-го-го! Гэта гагоча купец і кідаецца да мяне, каб адабраць тавар. А бадай ты згарэў! Так і не разгаварыўся. Кінуўшы тавар і забраўшы ад пэрса свае грошы, мусіў знайсьці жаўнера, які ўжо трошкі ўмеў папэрсідзку і мог разгаварыцца з купцом. Вось той і растлумачыў мне, што цмоканьне, злучанае з закідам галавы і заплюшчваньнем вачэй, азначае: „не“. Наш чалавек, каб жэстам хацеў сказаць слова: „не“ — проста пакруціў-бы зьлева направа галавою, а пэрс, глядзі, якія штукі выкідвае!

**Дзядзька Пранук.**

(*Працяг будзе*).

лі, дзякуючы чаму падчас жніва жыта дае магчымасьць ніжэй яго жаць, ня робячы шкоды маладому лубіну.

## Яшчур, яго праявы і барацьба з ім.

Гэта хвароба дужа лёгка распаўсюджваецца шляхам пошасьці на быдла. У большасьці выпадкаў трапляецца ў рагатае скаціны, хаця потым пераходзіць на авечкі і сьвіньні. Пры праявах гэтае хваробы трэба незабаўна ўжыць усіх спосабаў перасьцярогі, бо хвароба гэта дужа лёгка пераходзіць і на людзей, каторыя даглядаюць быдла. Заражаюцца людзі таксама і праз ужываньне малака ад хворае скаціны. Наагул, гэта хвароба дужа небясьпечная, бо ад яе нярэдка трапляюцца сьмяротныя выпадкі, як быдла, так і людзей. Досьледы вучоных да гэтага часу яшчэ не ўлавілі, што з сябе прадстаўляюць мікробы яшчуру, ведама толькі, што яны вельмі жывучыя, нават у гнаі яны могуць жыць больш, як год. Пошасьць яшчуру ў кароткім часе распаўсюджваецца хвораю скацінаю на дзесяткі, а то і на сотні вёрст. Пераходзіць гэта хвароба праз падсьціл, судзіну, з якое есьць ды п'е быдла, і іншыя рэчы, што абслугоўваюць хворую скаціну. А найбольш яно заражаецца яшчурам на кірмашох. Калі ў скаціны пачынаецца яшчур, дык яна робіцца сумнаю, млява есьць, альбо і зусім ня мае ахвоты да яды, перастае жаваць, нос робіцца сухім, скура гарачаю; у кароў, якія дояцца, зьмяншаецца амаль на палавіну малако. На губах і дзяснах сьлізкія балоны паступова пачынаюць чырванець, з рота цячэ шмат сьліны і скаціна часта аблізваецца. На балонках робяцца чырвоныя плямы, на якіх праз дзень - два паказваюцца пузырчыкі, якія наліваюцца жоўтаю, яснаю вадзянкай. Паступова пузырчыкі павялічваюцца, часам даходзяць да велічыні галубінага яечка, скурка на іх спачатку жоўтая ды ясная, а пасьля пачынае бялець і мутнець.

Праз некаторы час пузырчыкі лопаюць самі, альбо разьдзіраюцца пашаю і з іх выцякае жыжка часам з крывёй. Ранкі пузырчыкаў паступова сохнуць і карова пачынае ачуньваць, але гэта працягнецца тыдняў 2—3.

Вельмі часта яшчур паказваецца на капытах, у шчыліне паміж капытамі.

Паяўленьне на капытах яшчуру пачынаецца запаленьнем скуры на пярэдніх нагах. Скура набрыньвае, робіцца гарачаю і баліць. Боль даходзіць часам да таго, шта карова ня можа стаяць і кладзецца.

Пасьля пачынаюць высыпацца пузырчыкі паміж капытамі. Яны трошкі меншыя, як на мордзе, і ў іх хутчэй зьбіраецца гной.

Часта здараецца, што рагавіна на капыце лопаецца, адстае, а часам і адпадае. Апрача зазначаных месцаў, хвароба гэта яшчэ можа быць каля задняга праходу на палавых органах, пад чэравам, у гарлянцы, і нават у ўнутраных органах скаціны, як кішкі, лёгкія і г. д. У апошніх выпадках карова дужа рэдка застаецца жывою. У авечак яшчур найчасьцей ахапляе ногі і ад гнойнага запаленьня рагавіна часта ападае з капытаў.

А ў сьвіней ён высыпаецца на мордзе, і гэтак абсыпле пузыркамі, як быццам іх апарылі кіпнем.

Парасяты хварэюць на ўнутраны яшчур, ад якога ў іх бывае вялікая бягунка (ляксаўка), і яны рэдка калі выжываюць.

Калі скаціна захварэе на яшчур, дык перш за ўсё, ёй трэба даваць мягкі корм, як прапараную пашу, высеўкі, пойла, вараную бульбу, моркву і г. д.

Як пачне цячы з раны, дык трэба ногі абмазаць масьцяй, якая робіцца з алігазы і дзёгцю, пры чым на 10 часьцей алігазы браць адну часьць дзёгцю і абмазваць ногі да кален. Гэтакай масьцю можна нават здароваму быдлу абмазваць ногі дзеля перасьцярогі.

Рот захварэўшай скаціны прапалоскваць наварам сьвежай дубовай кары, альбо разьведзеным воцтам, ці разьведзеным галуном, даючы на 100 часьцей вады, адну часьць галуну.

Найлепш, аднак, можна лячыць быдла выціраньнем роту дзёгцем простаю суконнай рукавіцаю, памачыўшы яе ў дзёгці.

Каб не дапусьціць яшчуру ўва ўнутраныя органы, трэба даваць у пойла па 2 лыжкі ў дзень глаубэравай солі, альбо соды.

Калі гэта хвароба зьявіцца на нагах, дык як мага трэба дзяржаць скаціну ў адпаведнай чыстаце, зьмяняючы часта падсьціл ды прамываючы капыты крэолінавую ці дзегцяною масьцяй, што робіцца з аднае часьці крэоліну ці дзёгцю і 10 часьцей шмальцу. Пасьля гэтага хворыя капыты трэба завязваць чысьценькаю ганучкаю.

Найлепшымі меры перасьцярогі будуць тады, калі здаровага быдла ня пускаць на пашу разам з хворым, сьцерагчыся перагонных шляхоў, ня ставіць тыдняў два разам са сваім быдлам нядаўна купленага, калі яно часам паходзіць з тае мясцовасьці, дзе ёсьць яшчур.

І. ЛЮШУК.

(„Наше Життя").

## Што перашкаджае сялянам пераходзіць на хутары?

Прачытаўшы загаловак, можа падумае хтось, што я праціўнік хутароў? Я—не праціўнік хутароў, а наадварот — прыхільнік, толькі хачу выявіць, у чым ёсьць баязьлівасьць нашых сялян пераходзіць на хутары.

Першая прычына баязьлівасьці ёсьць тая, што, як вядома, вялізарнасьць сялян патрабуе неабходна дабаўкі зямлі. Тымчасам Урад абяцаў дабаўку зямельнаю рэформаю, на каторую ўсе зацікаўленыя і спадзяюцца, дык дзеля гэтага і не пераходзяць на хутары, бо кажуць: „Перайшоўшы на хутары, не дадуць нам болей зямлі".

Другая прычына будзе гэткая: яўная галата і бедната, якая ў апошніх гадох акружыла нашых сялян з усіх бакоў, дык дзеля гэтага таксама не пераходзяць, бо ня маюць пэўнасьці — „ці здолее другі пабудаваць будынкі?" Бо старыя распаўшыся, трэба будзе закупіць лесу, а за што?

Трэцяй прычынай зьяўляецца тое, што сяляне чакаюць ад Ураду такой дапамогі, якую даваў Расейскі Ўрад сялянам, пры пераходзе на хутары, а іменна: бясплатнага каморніка, мэльёрацыю палёў і на пераноску дапамогу ў матар'яле, або грашмі.

Чацьвёртай прычынай будзе тое, што некаторыя сяляне разгультаіўшыся, то яны і баяцца пераходзіць на хутары, каб там, праз гультайства

сваё, не прапасьці, бо ў вёсцы жывучы ідуць яны ў поле на работу быццам пад прымусам іншых сялян, бо гэта-ж будзе вялікі стыд, калі палоска будзе заставацца незааранай, або няскошанай і г.д.

Дык нічога дзіўнага, што дзеля гэтых прычын сяляне не пераходзяць на хутары. Прычыны гэныя паўсталі з віны ўрадовае аграрнае палітыкі.

І калі збоку ўраду прыйдуць палёгкі, дык пачнецца масавы пераход на хутары. *N.*

### Ці можам падняць ураджайнасьць бяз штучных гнаёў?

Часта можна пачуць ад нашых сялян гэткую гутарку: „Нашто купляць штучныя гнаі, калі палажыўшы добра хлеўнага гною і так добра вырасьце. Аднак, тут я на гэта магу сьмела сказаць, што ў такіх словах няма ані каліўца праўды па прычынах гэткага роду:

1. Класьць многа хлеўнага гною пад расьліны зернавыя (каласавыя) няма карысьці, бо зьлежацца, калі не падправіш зямлю штучным гноем.

2. Хлеўны гной, паложаны сьвежа пад расьліны, небясьпечны ў выпадку гарачага лета, бо спаліцца расьліна.

3. Хлеўны гной можа даць карысьць у выпадку гарачага лета тады, калі ён паложаны на зіму, але можна сьмела сказаць, што нашыя сяляне на зіму гною не кладуць, бо яго тады ня маюць, увесь гной вывозіцца на папар пад жыта.

4. Хлеўны гной ня зьменшыць сьметнякоў, а наадварот — павялічвае іх.

Дык цяпер паўстае пытаньне: „Ці можна праціставіць вышэйпералічаным прычынам штучныя гнаі"? Адказаць на гэта можна сьмела, што можна.

1. Штучныя гнаі ня толькі ўзмацняюць і павялічваюць колас збажыны, але ўзмацняюць і салому, каторая тады ня хіліцца да зямлі ад цяжасьці коласу.

2. Штучныя гнаі робяць зямлю цяжэйшай і гэтым не дапускаюць у гарачае лета спаліцца расьлінам.

3. Штучныя гнаі вельмі многа нішчаць сьметнякоў, бо зярняты сьметнякоў куды далікатнейшыя за зярняты збожжа і ад гэтага яны не пераносяць моцы штучных гнаёў.

4. Ужываючы штучныя гнаі, ў сялян акажацца болей хлеўнага гною і тады можна будзе кожнаму селяніну класьці гной на зіму пад яравыя расьліны.

З вышэйнапісаных прычын, можна сьмела сказаць, што датуль не паднімем мы, сяляне - хлебаробы, ураджайнасьці сваіх палёў, пакуль ня будзем ужываць штучных гнаёў.

Зьдар Зарак.

## Гаспадарчыя парады.

### Пэўны спосаб зьніштожыць чарвякоў на капусьце.

Як толькі першыя чэрві пакажуцца на капусьце, трэба ўзяць жменю іх і варыць у вадзе, пакуль не развараццa, а потым гэтым астыўшым наварам папырскаць капусту. Чарвякі ня могуць зьнясьці імпату гэтага і капуста зусім будзе чыстая ад чарвей і- пачне добра расьці. Гэта самае можна рабіць і дзеля бручкі, рэпы ды турнэпсу.

### Чаго ня любяць мухі?

Самым лепшым лякарствам ад мух гэта будзе лаўровы алей, які можна дастаць амаль ня ў кожнай аптэцы. Гэты алей наліваюць у якуюнебудзь плоскую пасудзіну, напр., сподак, і ставяць у розных месцах памешканьня. Гэтак-жа добра ёсьць памазаць сьцены і рамы ў вокнах лаўровым алеем. Мухі ня зносяць гэтага паху і калі адчыніць дзьверы і вокны, дык зараз-жа, як ашпараныя, вылятаюць з хаты.

### Як вывясьці мышы?

Калі дзе разьвялося многа мышэй, трэба пастарацца налавіць іх жыўцом з які дзесяток, акунуць іх у мешаніну рыб'яга жыру зьмяшанага з дзёгцем і пусьціць на волю.

Пах гэтай мешаніны да таго прыкры дзеля мышэй, што яны праз колькі дзён усе паўцякаюць з памешканьня. Каб налавіць жывымі мышэй, то трэба паставіць вядро (бляш.) з вадой, трохі няпоўнае, а зьверху на ваду пасыпаць аўсянай мякіны ды яшчэ падкінуць з дзесяток пад'жараных гарбузікаў. К вядру прыставіць дошчачку, па якой мыш улезе хутка ў вядро—і скок у ваду, адкуль ня вылезе.

Усім вядома, што ў гумнах, дзе складаюць снапы жыта, вельмі мышы шкодзяць. Каб памагчы гэтай бядзе, трэба загадзя зрабіць гэтак: насекчы яшчэ з маладым лісьцём а л ь х о в ы х г а л і н і выламыць спод пад жытам, аўсом і г. д.; мышэй у тым гумне напэўна ня будзе — вельмі яны ня любяць паху завяўшых маладых лістоў алешыны. Калі завяліся мышы ў пограбе, альбо ў яме, дзе ссыпаюць бульбу, буракі і інш. і псуюць гэта, то трэба ўзяць вязку г р э ц к а е саломы і запаліць салому, зачыніўшы пограб. Дым ад грэцкае саломы ўраз-жа выганіць усе мышы, бо яны яго ня любяць.

### Як лячыць дыхавіцу (запал) у коняй?

Вельмі часта бывае, што коні, як кажуць, узрываюць сабе дыхавіцу, якая найбольш бывае ад расшырэньня лёгкіх (эмфімэза), калі многа ядуць коні з пылам сена, альбо працуюць. Гэтакую хваробу вось як лечаць татары ў Казанскай і Ніжагародзкай губ. Дзеля гэтага яны зьбіраюць звычайную асінавую кару, якую дробна таўкуць і мяшаюць яе з жытняю мукою і гэтым пасыпаюць дачу сена. На адзін пуд жытняе мукі трэба ўзяць 10 гарцаў кары. Гэты корм падсыпаюць кожны дзень два разы па паўгарца. Зразу ад кары часам робіцца ў каня як-бы панос, але ён ня шкодзіць жывёле. Ужо праз два-тры дні конь выглядае больш добры і менш кашляе, а праз тыдзень-другі і зусім хвароба праходзе.

### Каб ня скісала малако.

Калі хочуць, каб малако ўлетку ня скісала, то дзеля гэтага трэба ў пасудзіну з малаком палажыць ліст звычайнага д з і к а г а х р э н у. Тады малако нават і ў працягу колькіх дзён улетку ня скісьне.

### Усім даступнае лякарства ад зубнога болю.

Гэтыя каплі робяцца проста: настаяць на сьпірце ў цёплым месцы дзён дзесяць сьвежых

лісткоў падарожніку. Колькі капель гэтага лякарства на ватцы вельмі скора супакойваюць боль зуба.

### Як вывясьці пацукі.

Купіць у аптэцы альбо аптэкарскім магазыне травы „Cynoglossum officinale“, фунт якой каштуе некалькі грашоў, пасыпаць гэнай травой у тых месцах, дзе вядуцца пацукі. Можна пазатыкаць дзіркі альбо хады пацукоў гэтаю травой. Пацукі ўцякаюць зараз-жа, як толькі пачуюць пах гэтай травы.

### Як лёгка раскруціць заіржавэўшую мутэрку.

Часта бывае, што ў гаспадарцы трэба ў плузе, або яшчэ дзе раскруціць вельмі заіржавеўшую мутэрку, якая ня лёгка паддаецца нават ключу. Каб гэтаму памагчы, трэба абліць мутэрку газаю або тарпатынаю, якая зайдзе ўва ўсе шчыліны. Пасьля гэтага газу або тарпатыну запаліць, і як толькі абгарыць, мутэрка надта лёгка паддаецца адкруціць яе.

*Я. Х.*

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Дзіцячае ложка.

Ужо з першых дзён жыцьця новапароджаны павінен мець асобнае ложка. Забіраньне дзіцяці да свайго ложка мацяркамі або нянькамі па шмат якіх прычынах зьяўляецца шкадлівым: па першае, лежачы побач з маткаю, дзіця дыхае выдыханьнем яе цела і не карыстаецца сьвежым паветрам, якое мае вялізнае значэньне для разьвіцьця і росту дзіцяці; далей дзіця, якое ляжыць побач з маткаю, дастае ўночы грудзі, а нават і цэлымі;гадзінамі трымае іх у роце, калі засьне пры грудзёх затым, можа здарыцца, што мацi засьне ў часе ссаньня дзіцяці, а тады вельмі лёгка надходзіць задушэньне дзіцяці — гэткія факты вядомы кожнаму лекару! Гэтага хіба што хопіць, каб пераканаць мацярок, што ня трэба браць дзяцей у свае ложкі. У вясковых хатах для малых дзяцей ужываюцца дасюль найчасьцей калыскі, якія ў местах ужо зусім выйшлі з ужытку. Калыханьне дзіцяці ёсьць прынамсі лішаяе і мацяркі, якія для ўласнае выгады кладуць дзяцей у калыскі, таму што, паводле іхняга перакананьня, дзіця лягчэй засынае ад калыханьня, робяць гэта хутчэй на ўласную шкоду, адначасна ня прыносячы нічога добрага дзіцяці: бо калі прывучым дзіця засынаць ад калыханьня, дык пасьля яно не засьне без калыханьня; а з бегам часу калыханьня яму не даволі і яго трэба гойдаць на руках, нарэшце і гэта яму абрыдае, дык мацi пачынае сьпяваць на сон і г. д. Гэткім чынам, улюляньне дзіцяці цягнецца доўга, робіцца мукаю для яго і для маці. А калі-б мы ад пачатку жыцьця запаўнілі дзіцяці выгадна пасланае ложка, дык люляньне яго было-б лішнім, дзеля таго, што здаровае дзіця засынае лёгка бяз чужое падмогі. У гэткім выпадку дзіцячы сон куды здаравейшы і больш узмацняльны, а мацi не марнуе часу і ня нэрвуецца пры люляньні. Якім-жа, пасьля гэтага, мае быць дзіцячае ложка? Бязумоўна найлепшым ёсьць мэталёвае ложачка з круглых прутоў, даволі густа расстаўленых, каб дзіця паміж прутамі ня ўсоўвала галоўкі. Гэткае ложачка павінна быць лякерована набела; бакі ложачка зроблены так, што іх лёгка спусьціць, што палягчае мацi спавіваньне, выйманьне і ўкладаньне дзіцяці. Бакавыя драбінкі маюць быць досіць высокімі, каб старэйшыя дзеці, ўстаючы на ногі і гарцуючы па ложку, не выпадалі праз сетку.

Гэткія ложачкі звычайна забясьпечаны матрацам з жалезнае сеткі, а ножкі маюць на калёсках (роліках), што палягчае перасоўваньне ложка. Гэткія мэталёвыя, на-бела палякераваныя ложачкі лёгка утрымаць у парадку, ў іх не гнязьдзяцца блашчыцы і пыл, а доступ паветра не знаходзіць ніякіх перашкодаў. Аднаю заганаю гэтых ложачак ёсьць даволі высокая цана іх. Але трэба помніць, што гэта расход, які аплачваецца, бо ложка можа служыць дзіцяці цэлы рад гадоў, а ў вялікіх дружывых пераходзіць ад дзіцяці да дзіцяці. А калі мы станоўча ня можам пазволіць сабе большага расходу і мусім зьвярнуцца да дзеравяннага ложка, дык пастараймася, каб гэтае ложка было простым у будове, але зробленым з добрага, сухога дзерава і ня мела ніякіх шчылінаў і паглыбеньняў. Гэткае ложка, таксама палякераванае набела, трэба вельмі часта чысьціць, найстаранлівей ухіляцца ад загняжджаньня блашчыцаў, якія пасьля выдаліць цяжка. У першыя месяцы дзіцячага жыцьця можна дзіця класьці ў кошыку ад порця. Гэтыя кошыкі нізкія, бяз накрыўкі, расшыраюцца ўгары, праевўныя і досіць шырокія, каб іх можна было выгадна ўслаць. Пакуль дзіця пачне ўставаць самастойна, гэткі кошык ад порця можа замяніць ложка, — аднак-жа яго трэба часта мыць і ўжываць толькі для дзіцяці.

(„Kultura“).

## Корэспондэнцыі

### Адчынеце вокны!

(Пастаўскі павет).

Ня гледзячы на тое, што ў апошні час польскі ўрад, а таксама і некаторыя групы польскага грамадзянства, добра разумеючы ненармальны стан ува ўсіх галінах жыцьця беларускае вёскі і што гэты прыкры стан грамадзкага ладу сёньня зьяўляецца галоўнай прычынай усялякіх арыштаў, палітычных сварак і спрэчак у беларускім пытаньні, паставілі сваім абавязкам спыніць раз назаўсёды гэтыя прыкрыя зьявішчы і даць магчымасьць жыхаром беларускіх зямель добра з'орыентавацца ў сёньняшнай сытуацыі і знайсьці з яе пэўны выхад, аднак у нас гэтага

новага палітычнага і грамадзкага „prądu“ заўважыць ня можна. У нас на вёсцы нічога яшчэ не зьмянілася і, як было дагэтуль, так ёсьць і цяпер.

Усе тыя ўрады, а таксама і ўрадовыя асобы, якія так ці інакш зьяўляюцца кіраўнікамі нашага грамадзкага жыцьця і праз гэта маюць дачыненьне з беларускім сялянствам, не выяўлялі і не выяўляюць ніякай прыхільнасьці да ўсяго, што толькі беларускае. Нашае сялянства, ня бачачы спагады і добрых адносін да сябе, таксама глядзіць на ўсё з недаверыем і далей астаецца ў грамадзкім жыцьці зусім пасыўным. Будучы доўгі час пазбаўленым магчымасьці працы так на ніве культурнай, як і грамадзкай, яно сёньня не выяўляе поўнай грамадзкай сьведамасьці і патрэбы рэальнай, актыўнай працы.

Самай горшай плямай у сёньняшнім нашым грамадзкім жыцьці ёсьць страх, страх беларускага селяніна парад польскім урадоўцам і паліцыянтам. Нашыя сяляне, па незалежных ад іх прычынах, ня могуць здабыцца на так званую цывільную адвагу ў грамадзкім жыцьці і адкрыта выступіць у абароне сваіх інтарэсаў, як гэта пазваляе кожнаму грамадзяніну усякая дэмакратычная дзяржава.

Гэтыя ненармальныя зьявішчы ў нашым вясковым жыцьці абавязаны сваім пачаткам бязумоўна нетолеранцыйным адносінам усіх папярэдніх крэсовых уладаў да ўсялякіх праяваў беларускага культурнага і нацыянальнага жыцьця. На вялікі жаль, трэба сьцьвярдзіць, што ўвесь гэты прыкры стан рэчаў у поўных сваіх праявах вельмі адчуваецца ў Пастаўскім павеце.

Калі сёньня, ня гледзячы на ўсялякія труднасьці і перашкоды, сялянская маса, а перш за ўсё вясковая моладзь, па ўсіх кутках Беларусі, інстынктыўна горнецца да працы на ніве культурнай і нацыянальнай, творыць розныя культурныя арганізацыі і, не чакаючы на чужую помач, сама прыступае да палепшаньня свайго лёсу, то ў нашым кутку неяк ціха і глуха, і як быццам тут няма ніводнага жывога чалавека.

Ці-ж гэта азначае, што ў нас няма шырокага поля да працы, ці няма працаўнікоў, якія маглі-б і хацелі-б працаваць на родным загоне? Не! Ёсьць у нас адно і другое. Толькі вось адна бяда, што наша беларуская ніва вельмі ўжо моцна задзірванела і вымагае шмат цяжкай і мазольнай працы, а нашыя беларускія працаўнікі або зусім не бяруцца да працы і, пахаваўшыся ў цёмныя куткі, чакаюць невядома скуль сьвятлейшых дзён, або некаторыя з іх, спрабаваўшы працаваць, спаткаліся з рознымі перашкодамі з боку ўладаў і, махнуўшы рукой, таксама зачыніліся ў сваіх душных хатах.

Цяпер мы бадай кожны месяц напатыкаем весткі аб выкрыцьці ў Паставах нейкіх тайных камуністычных арганізацыяў, але яшчэ ніразу не спаткалі ніякай весткі аб арганізацыі ў Паставах якой-колечы беларускай культурна - прасьветнай установы, якая магла-б прынясьці хоць прамень сьвятла ў нашу цёмную беларускую хату.

А цемната ў нас страшная! Наша вясковая моладзь, замест таго, каб вучыцца і быць добрымі грамадзянамі краю, займаецца толькі п'янствам ды, што за тым ідзе, расправай адзін з адным на нажы. Тое, што ім калісьці трэба будзе неяк жыць, іх зусім не абходзіць! А вясковая інтэлігэнцыя, як я ўжо казаў, сядзіць, схаваўшыся ў свае цёмныя каморкі.

Дык вось у гэты час, калі на беларускай ніве так многа ёсьць працы, што ўсім здольным да гэтае працы сядзець ані мінуты ня можна, адчынеце-ж вокны! Пусьцеце ў вашы душныя хаты сьвежую струю вясеньняга паветра! Уздыхнеце свабадней грудзьмі і бярэцеся да працы!

*Чычынка.*

## Некалькі слоў аб расейскіх школах.

Дзякуючы гістарычным падзеям і наагул анармальным варункам, панаваўшым на нашай зямельцы, ў Заходняй Беларусі, ў сучасны мамэнт, шмат ёсьць расейскіх школ, якія абмаскоўліваюць беларускую моладзь.

Калі гэтыя школы паўсталі і чаму яны дагэтуль істнуюць — аб гэтым пісаць няварта, гэта і так кожнаму зразумела.

Цікаўней за ўсё—гэта натура гэных навуковых інстытуцыяў, іх унутраная сутнасьць і мэты, да якіх яны імкнуцца.

Перш за ўсё, ў чалавека, неазнаёмленага з сітуацыяй, паўстае пераканаваньне, што расейскія гімназіі істнуюць для дзяцей расейскага паходжаньня, што цалком не згаджаецца з сапраўдным станам рэчаў.

У расейскіх школах абмаскоўленая прафэсура абмаскоўлівае беларускую моладзь, прычым трэба ад'значыць, што як прафэсура, так і вучнёўская маса нічога супольнага, апрача смутнай традыцыі, з Маскоўшчынай ня мае.

Вучыцялі маскоўскіх школ у Заходняй Беларусі лічаць сябе расейцамі „паводле культуры“ і на гэтым прынцыпе будуюць сваё жыцьцё і будучыню сваіх гадунцоў.

Будаваць сваё ўласнае жыцьцё яны могуць у тым кірунку, які ім падабаецца, але абавязкам беларускага грамадзянства ёсьць ахова нашай моладзі ад таго расейскага бруду, якім хочуць засьмяціць душу маладога пакаленьня нашай інтэлігэнцыі.

Калі мы бліжэй прыглядзімся да выкладоўцаў і ўзгадавальнікаў беларускай моладзі, дык пабачым, што гэта маральныя дэгэнэраты, што паходзяць пераважна са школы Кассо.

Ёсьць, праўда, жменька маладых, лібэральных пэдагогаў, але і тыя стаяць на эміграцкіх пазыцыях і моляцца да свайго эміграцкага Ваала.

Не закранаючы пэдагогікі, трэба адцеміць толькі, што амаль ня ўсе гэтыя расейскія навуковыя інстытуцыі ператварыліся ў трыбуны монархічнае прапаганды.

Монархічная догматыка стала нібы абавязковым прадметам выкладаньня. Рэч зразумелая, што побач з апалёгіяй „адзінай і непадзельнай Расеі“ ідзе ў гэтых вучэльнях інтэнсыўная антыбеларуская работа.

У вучнёўскія галовы ўбіваюцца усялякія недарэчнасьці: аб „расчленителях России“, аб „трех ветвях единого руского народа“ і іншыя баламуцтвы.

Усё гэта яскрава сьведчыць аб тым, што дзеяльнасьць маскоўскіх навуковых закладаў на нашай тэрыторыі зьяўляецца бязумоўна шкоднай для справы нашага Адраджэньня.

І цяпер галоўнай нашай задачай ёсьць будаваньне бе-

ларускага школьніцтва, дык паралельна на парадак дня мусім высунуць ліквідацыю маскоўскіх навуковых пляцовак у Заходняй Беларусі.

Ні палянізацыя, ні маскалізацыя, — а родная школа ў беларускай мове — вось баявы кліч сучаснага мамэнту.

*Il duce.*

### М. Радашкавічы.

Усякая справа вымагае для свайго разьвіцьця працы і стараньня, інакш яна марнее і зыходзіць на нішто.

Усякае павярхоўнае трактаваньне тае ці іншае справы не дае пажаданых рэзультатаў. А калі чалавек чаму пасьвяціцца і аддасца цэлай душой і сэрцам, тады справа разьвіваецца — расьце. Часта дзівішся, чаму вось так позна заняўся і аддаўся справе так важнай, як — праца над сабой, праца для карысьці свае Бацькаўшчыны? Вось я, гадаваўся на вёсцы, пасьля папаўшы ў расейскую школу, абрусеў. Затраціласа любоў да ўсяго, што беларускае. І так было з большасьцяй Радашкаўскай моладзі. На‘т спачатку ў беларускай гімназіі расейскія ўплывы перавяжалі, аднак цяпер справы зьмяніліся зусім. Цяпер жыцьцё беларускае ў Радашкавічах ўзмацавалася. У нас паўстаў Гурток Бел. Інст. Гасп. і Культуры, які мае сваю бібліятэку. Моладзь зацікавілася творамі беларускіх пісьменьнікаў, чытае беларускія газэты і г. д. У гімназіі шмат прыезных вучняў з іншых паветаў, шчырых і сьвядомых беларусаў. І цяпер ужо ня чураюцца беларускае мовы, а наадварот, адносяцца да ўсяго, што беларускае, з пашанаю і любоўю.

Так павінна быць усюды і прыклад Радашкавіч павінен сьвяціць іншым беларускім мясцовасьцям.

Шпак Восаўскі.

# Палітычны агляд.

## Пасьля забойства Савецкага Пасла Войкава.

Забойства савецкага пасла выклікала зразумелае паанэрваваньне Савецкага Ураду. З свайго боку Польскі Ўрад пастараўся зрабіць усё магчымае дзеля расьсьледаваньня справы, а нават даў згоду даць адшкадаваньне ўдаве па паслу Войкаве. Урад польскі ня можа прыняць адказнасьці на сябе за забойства пасла, зробленае расейцам. Такі прыблізна зьмест польскае ноты на першую савецкую ноту, якая відзела адказнасьць польскага ўраду за забойства. Польскі Урад узяў удзел у хаўтурох і выразіў свой жаль па поваду забойства. Тым ня менш Савецкі Ўрад выслаў другую ноту, ў якой, дзякуючы за спагад выражаны польскім урадам, далей вінаваціць польскі ўрад у забойстве, хаця-б дзеля таго, што на тэрыторыі Польшчы знаходзяцца расейскія монархічныя арганізацыі, як і паасобныя адзінкі, якія вядуць варожую кампанію проціў Ураду Саветаў.

Нота дамагаецца ліквідацыі гэных арганізацыяў, адначасна Саветы падаюць да ведама, што ў іх ёсьць дакумэнты, паказуючыя на тое, што на тэрыторыі Польшчы знаходзяцца монархістыя-тэрорыстыя. Наагул нота напісана ў дэмагогічным тоне, яна патрэбна дзеля ўнутранай палітыкі Саветаў, дзе расьце штораз большае незадаволеньне,

Забойца Б. Кавэрда перададзены палявому суду. Суд, які адбыўся 15 чэрвеня, засудзіў Кавэрду на бясрочную катаргу, адначасна пастанавіўшы зьвярнуцца да Прэзыдэнта Рэспублікі, каб ён замяніў бясрочную катаргу на 15 гадоў катаргі.

## Тыдзень чырвонага і белага тэрору.

Разрыў англа-савецкіх дыплёматычных зносін з аднаго боку, няўдачы бальшавікоў у Кітаі і спрэчкі бальшавіцкіх правадыроў паміж сабою з другога боку — значна аслабілі сілу савецкае ўлады ў Расеі. Праціўнікі бальшавікоў выкарысталі гэты момант і пачалі проціў іх вострую тэрорыстычную барацьбу. Амаль не аднаго і таго-ж самага дня ў Варшаве рукою вучня расейскае гімназіі Барыса Кавэрды быў забіты савецкі пасол Войкаў, у Менску невядомымі тэрорыстымі забіты старшыня Г. П. У. Опанскі і яго блізкі супрацоўнік, а ў Петраградзе бомбаю, якая была кінута ў салю дзе сабраліся камуністыя, цяжка ранена 26 камуністых, частка якіх памёрла.

Усе вышэйпамянёныя тэрорыстычныя акты вельмі знэрвавалі бальшавікоў і ў адказ на белы тэрор яны пачалі чырвоны тэрор. 9 чэрвеня па загаду Маскоўскага Г. П. У. бяз усялякага суда было расстрэлена 20 чалавек з тых, каторыя былі арыштованы і сядзелі ў бальшавіцкіх турмах. Сярод расстрэленых ёсьць вельмі выбітныя палітычныя дзеячы, як напрыклад, князь Далгарукаў — вядомы публіцысты і лібэрал — адзін з правадыроў кадэцкае расейскае рартыі. Расстрэл бяз суда і сьледзтва дваццацёх закладнікаў, якія ня былі павінны ў тэрорыстычных актах проціў бальшавікоў, вельмі абурыў эўропэйскае грамадзянства і трэба думаць і расейскую эміграцыю, якая напэўна пасьля маскоўскіх расстрэлаў пастараецца адамсьціць бальшавіком і арганізуець новыя замахі на камуністых, як заграніцаю, так і ў Расеі. У Маскве ўжо 10-га чэрвеня, як-бы ў адказ на расстрэлы Г.П.У., быў забіты выдатны камуністы Тураў (Гінсбург), сябра камуністычнае акадэміі. Адным словам, апошні тыдзень прайшоў пад знакам пачаўшайся хвалі чырвонага і белага тэрору і трудна спадзявацца, каб гэтая хваля тэрору так хутка скончылася.

Палітычнае забойства, як крайні сродак барацьбы, само па сабе ніколі не дае пажаданых вынікаў.

Тэрорыстычныя акты тым ня менш маюць палітычнае значэньне, бо прыкоўваюць увагу грамадзянства да палітычных і грамадзкіх справаў і абвастраюць настроі і палітычную барацьбу ў народных масах. Тэрорыстычныя акты ў расейскім грамадзкім жыцьці сьведчаць нам аб тым, што Расейская Рэвалюцыя і бальшавіцкая дыктатура ўступіла ў новы крызыс, а чым скончыцца гэты крызыс трудна яшчэ прадбачыць.

## З Наваградзкага беларускага жыцьця.

2-га чэрвеня ў нас ў Наваградку меў месца факт, маючы даволі вялікае значэньне ў жыцьці нашага краю, гэта пасьвячэньне дзьвюх бурсаў (мужчынскае і жаночае), створаных з ініцыятывы п. Ваяводы. Акт пасьвячэньня пачаўся ў жаночай бурсе, куды і прыбыў п. Ваявода ў таварыстве вышэйшых урадоўцаў.

Гасьцёў прывітала пабеларуску адна з вучаніц гімназіі грам. М. Бядзеўская, даручаючы п. Ваяводзе прыгожы букет красак. Пасьля кароткага набажэнства і пасьвячэньня бурсы кс. Бабкоўскім, госьці аглядзелі памешканьне бурсы. Далей наступілі адведзіны мужчынскае бурсы, дзе п. Ваяводу прывітаў, таксама вучань грам. Варановіч. Тутака, як і ў жаночай бурсе, адбылося набажэнства і пасьвячэньне, пасьля гэтата адбылася ўрачыстая акадэмія: дэклямацыя вучняў, сьпеў і рад прамоваў. Прамаўлялі: кс. Бабкоўскі, д-р. Скрабец і праф. Чатырка, які гаварыў аб збліжэньні дзьвюх культур, польскае і беларускае.

Па сканчэньні прамоваў, п. Ваявода падзякаваў сабраным за сардэчнае прыняцьце, пажадаў моладзі добрых поступаў ў навуцы і працы над разьвіцьцём беларускае культуры, якую яны павінны рэпрэзэнтаваць.

Далей зазначыў, што будзе і ў далейшым апекавацца, як гімназіяй, так і бурсамі. Па адбытым акце, гаспадары запрасілі ўсіх прысутных на гарбату, якая адбылася ў надта мілай, хатняй атмосфэры.

Разыйшліся ўсе даволі позна, выносячы з сабой надзею на лепшую будучыну.

*Прысутны.*

## Аб усім патроху

### „Кароль“ у міністэрстве заграцічных справаў.

Апошнім часам у міністэрства заграцічных справаў зьявіўся нейкі франт і, расьсеўшыся ў пачакальні п. міністра, тры разы стукнуў палкаю аб падлогу. Калі падыйшоў да яго слуга, дык незнаёмы нядбайна сказаў:

— Хай-жа-ж прыдзе міністар.

Паклікалі аднаго з вураднікаў, на пытаньне якога, чаго яму трэба, незнаёмы адказаў:

— Як я бачу, дык вы ня ведаеце, з кім маеце справу... Увага! Я кароль Польшчы і прыйшоў паглядзець, што вы тут робіце?

Вурадвік зразумеў, што мае справу з вар'ятам і, ня хочучы рабіць авантуры, пакланіўся і сказаў:

— Дапраўды, мы шчасьлівы, бачачы паважанага караля ў нас. Але чаму-ж газэты маўчаць аб яго каранацыі?

— Бо гэта — таямніца, — адказаў „кароль“, — але ў найбліжэйшыя дні аб гэтым будзе падана ў газэты афіцыяльна.

Затым „кароль“ патрэбаваў назначэньня яму сьвіты, бо ён ня можа без яе абыйсьціся.

„Караля“ пры „сьвіце“ завялі ў шпіталь Яна Божага.

* * *

Рэдакцыя „Беларускага Дня“ адтрымала пісьмо ад Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, ў Мядзьведзічах, якога, дзеля браку месца, ня можам цалком зьмясьціць. У пісьме Урад Гуртка протэстуе процiў ілжывай корэспондэнцыі Сумнага ў № 16 „Нашае Праўды“ і выражае сваю падзяку грам. Цяўлоўскаму.

Пад пісьмом 10 подпісаў.

## Паштовая скрынка.

К-дз. Падайце прозьвішча вучцеля, тады будзем магчы зьмясьціць Вашу корэспондэнцыю.

П. Саковіч. Газэту будзем высылаць, старайцеся пашыраць яе. Адказы Вашы выкарыстаем.

Пралеска. Корэспондэнцыю Вашу п. н. „Небясьпечнае зьявішча“ выкарыстаем.

Козьліку. Корэспондэнцыю выкарыстаем.

Дзеду. Артыкул Ваш п. н. „Сіла“ ня будзе выдрукаваны, просім пісаць з месца.

Я. Тарыкову. Ваш артыкул „Аб культурных і някультурных гаспадарках“ будзе надрукованы, але пазьней.

П. Крачкоўкаму. Газэту высылаем. Просім прысылаць корэспондэнцыі.

Я. Хаданенка. Песьні і корэспондэцыі адтрымалі. Песьні з часам будуць надрукованы, корэспондэнцыі выкарыстаем.

С. Ждановіч. Газэту Вам высылаем на паказаныя Вамі адрэсы.

Я. Дамінікоўскі. Газэту высылаем. Пішэце.

## Наваградзкая Беларуская 8 кл. Гімназія

### прыродаматэматычнага тыпу

даводзіць да ведама грамазянства, што прыймовыя экзамены вучняў на 1927—1928 школьны год ува ўсе клясы Гімназіі адбудуцца ў наступным часе:

**вясною: 22, 23 і 24 чэрвеня,**

**восеньню: ад 1-га да 10-га верасьня.**

Заявы аб допушчэньні дзяцей да экзаменаў падаюць іх бацькі або апякуны.

Да заявы трэба далучыць: 1) Мэтрыку аб нараджэньні. 2) Пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы. 3) Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі, калі паступаючы вучыўся ў якой школе.

Жадаючыя паступіць у 8-ю клясу, або перавясьціся з іншае гімназіі ў гэтую клясу, павінны зьвярнуцца з просьбаю „Do Kuratorjum Okręgu Szkolnego Białostockiego w Białymstoku“ аб дазволе, далучыўшы да паданьня вышэй абазначаныя дакумэнты.

Пры Гімназіі ад 8 красавіка г. г. істнуе на кошт Ураду інтэрнат для хлопцаў і дзяўчат пасобку на наступных варунках:

Памешканьне, апал, сьвятло, жалезнае ложка, прыслуга і наагул уся абстанова—бясплатна, пасьцель-жа і порце ўласнае.

На утрыманьне бярэцца: 24 кл. жытняй мукі, 4 кл. пшанічнай мукі, 4 кл. круп, 2 кл. сала, 2 кл. бульбы.

Па жаданьню бацькоў, замест прадуктаў, можа быць плата ў грошах, паводле каштоўнасьці гэтых прадуктаў.

Заняткі ў Гімназіі пачнуцца 1-га верасьня.

ДЫРЭКЦЫЯ.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń“ Друк. „Pax“, вул. Сьв. Ігната 5.